*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№ 105 (227)**
Чацвер, 19 чэрвеня 1997 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец — ТАА "Народная воля"
Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб.; у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Сонца**

| | Усход | Захад |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.18 | 21.43 |
| Магілёў | 4.26 | 21.33 |
| Гомель | 4.32 | 21.21 |
| Мінск | 4.36 | 21.44 |
| Гродна | 4.53 | 21.58 |
| Брэст | 5.03 | 21.49 |

*Поўня 20 чэрвеня.*



# З днём нараджэння, Васіль Уладзіміравіч!

## Неўміручасць праўды

Без творчасці Васіля Быкава сёння немагчыма ўявіць не толькі сучасную беларускую літаратуру, але і шырокія абсягі еўрапейскага і сусветнага прыгожага пісьменства, увогуле культуры. Яго апавяданні і аповесці, перакладзеныя на многія дзесяткі моў, сталі патрэбным, неабходным набыткам для мільёнаў людзей.

Як сцвярджае сам пісьменнік, лёс, існаванне кожнай кнігі залежыць ад таго, колькі ў ёй "закладзена ад праўды народнага жыцця". Творчасць Васіля Быкава, якраз дзякуючы праўдзе і шчырасці, бліскуча вытрымлівае праверку часам. Яна мае выразна беларускія нацыянальныя карані, аблічча і душу і разам з тым сваёй выключнай духоўнай напоўненасцю, маральным максімалізмам, актыўным гуманізмам арганічна ўліваецца ў плынь сусветнай культуры.

Асмелюся сцвярджаць, што нават у наш тэхнакратычны, а цяпер яшчэ і няўстойлівы, матэрыяльна і маральна жабрачы час літаратура не страціла сваёй прыцягальнасці. Канешне ж, сапраўдная літаратура. Заўважаю па сабе: чым мацней ціснe на мяне жыццёвая бязладзіца, магутная прапагандысцкая машына прэсы, тэлебачання і радыё, тым часцей узнікае настойлівае жаданне ўзяць з паліцы добрую кнігу, застацца з ёю сам-насам. Я заўсёды маю душэўную патрэбу перачытваць прозу слыннага Майстра, якая захапляе даверам да жыцця, натуральнасцю. У ёй ніколі не было патэтыкі, фальшывага пафасу, кан'юнктуршчыны, чым нярэдка грашылі многія літаратары. Нават ваенная гераічная тэма раскрываецца пісьменнікам не праз панарамныя баталіі, а праз лёсы звычайных, простых людзей, праз іх паводзіны і ўчынкі, бо вайна зрушыла сам лад жыцця. Кожнаму, хто ўкручаны ў яе крывавы вір, даводзіцца праходзіць выпрабаванне на мяжы, а часта і па-за межамі магчымага, і тады яскрава праяўляецца сапраўдная сутнасць чалавека.

Ва ўсіх аповесцях Быкава, пачынаючы ад "Жураўлінага крыку" і да самых апошніх па часе твораў, на першым плане — пяхота, акопныя салдаты і афіцэры, радавыя партызаны і падпольшчыкі, мірныя жыхары, тыя працаўнікі вайны, якія зрабілі ўсё, каб "выстаяць і перамагчы". Іхнія ахвярныя лёсы зліваюцца ў лёс усяго народа, які такой вялікай крывёю, такімі неймавернымі пакутамі аплаціў сённяшняе жыццё.

Былы воін, які добра ведае гэтую горкую цану, надзвычай балюча ўстрывожаны лёсам беларусаў зараз, у вызначальны для іх час. І ў прозе, і ў публіцыстыцы Васіль Быкаў не стамляецца сцвярджаць праўду жыцця, пераконваць суайчыннікаў, што нельга стварыць нешта вартае, калі ты не любіш сваю зямлю, не паважаеш і не засвойваеш духоўны скарб продкаў: родную мову, культуру, традыцыі.

Ваяўнічыя змагары за савецкую або славянскую імперыю не паважаюць беларускі народ, грэбліва папіраюць яго права на самастойнае развіццё, маніпулююць нізкай нацыянальнай і палітычнай свядомасцю ачмураных, затурканых, задушаных страхам людзей. Быкаў жа, бачачы ўсе заганы цяперашняга грамадства і бескампрамісна выкрываючы іх, усё ж верыць у здольнасць нашага народа пабудаваць сваю незалежную дзяржаву, дзе годна, разумна і заможна будзе жыць кожны чалавек. З гэтай высакароднай надзеяй і працуе сёння выдатны мастак роднага слова. І яго голас адгукаецца ў душах людзей.

Віншуючы Васіля Уладзіміравіча з днём нараджэння, хочацца пажадаць яму — чалавеку высокага таленту, бяспрыкладнай мужнасці і сумленнасці — дабра, шчасця і жыццёвай моцы на доўгія гады.

Калісь, у нялёгкі для беларускага пісьменніка час, выдатны паэт сучаснасці Аляксандр Твардоўскі падтрымаў яго паштоўкаю, дзе былі такія словы: "Усё мінецца, а праўда застанецца". Праўда Васіля Быкава будзе з намі заўсёды!

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ.**

## Ва ўсім свеце пакланяюцца перад яго творчасцю...

***Вядомы беларускі пісьменнік Васіль Быкаў вылучаны на атрыманне прэстыжнай літаратурнай прэміі "Букер-97". Аб гэтым паведаміў нядаўна расійскі часопіс "Итоги".***

У спіс, які прадставіў Брытанскі камітэт Букера, увайшлі творы больш чым сарака аўтараў. Сярод прэтэндэнтаў і беларускі пісьменнік Васіль Быкаў з маленькай аповесцю "Пакахай мяне, салдацік". Прыкметна, што ў ліку намінантаў некалькі расійскіх літаратараў, а вось наша краіна прадстаўлена адным імем.

Між іншым аповесць "Пакахай мяне, салдацік" Васіль Быкаў уключыў у свой час у новы зборнік сваіх твораў "Сцяна", які, як вядома, выдавецтва "Мастацкая літаратура" адмовілася друкаваць, спасылаючыся на тое, што творы Быкава выдаваліся на радзіме ў дастатковай колькасці. Праўда, аповесць была надрукавана ў беларускім "Немане", а пасля з'явілася і ў расійскім часопісе "Дружба народов".

**Марыя НАРЭЙКА.**

Из первых уст

## Сенатор номер один Павел Шипук молвил слово

**Людмила МАСЛЮКОВА,**
**политический обозреватель "Народной воли"**

Павел Шипук, как показало время, публично изъясняется редко. Требуется что-то из ряда вон выходящее, чтобы уроженец деревни Ополь Ивановского района Брестской области обронил несколько слов в микрофон или перед телекамерой. Последним событием, в ходе которого сенатору номер один невозможно было отмолчаться, стала первая сессия Парламентского собрания Союза Беларуси и России, которая прошла в середине июня в Бресте. Журналисты, пользуясь случаем, "обстреляли" вопросами попавшего в фокус общественного внимания бывшего гомельского губернатора.

Что он думает о российском кредите для Беларуси в 800 миллиардов рублей, который вот уже полгода как застрял в правительственных кабинетах партнера? Как он относится к проблеме изоляции нашей республики в Европейском сообществе? Нравится ли ему предложение положить будущие слова гимна нынешнего Союза Беларуси и России на мелодию гимна СССР?

Отвечая представителям прессы, председатель Совета республики Павел Шипук еще раз проявил себя политиком, отличительное свойство которого заключается в умении сглаживать острые углы и все видеть в лучшем свете.

По поводу откровенно запаздывающего российского кредита отметил, что дело лишь за тем, чтобы на соответствующем документе поставил визу глава правительства Виктор Черномырдин. В прошлом, возглавляя АО "Гомельстекло" и еще не помышляя о сенаторстве, Павел Шипук наверняка понимал разницу между чьей бы то ни было подписью и денежными купюрами как таковыми. Теперь эту прозрачную разницу он как политик однозначно трактует в пользу блистательного прогресса экономической интеграции двух стран.

По мнению главы верхней палаты нынешнего белорусского парламента, международная изоляция Беларуси не совсем и изоляция. Всего лишь, заметил Павел Шипук, для республики приостановлен статус приглашенного в Евросоюз, и это временное недоразумение, и оно, по его оптимистичному убеждению, найдет свое разрешение в недалеком безоблачном будущем. Естественно, сенатор не стал углубляться в анализ причин создавшегося положения: тема скользкая даже для него, столь сдержанного и осторожного, как, пожалуй, никто в обеих палатах сомнительного законодательного органа.

Наконец, Павел Шипук искренне признался, что ему импонируют слова из гимна СССР — "Союз нерушимый республик свободных..." Ему представляется, что они вполне подходят и к нынешней ситуации, когда после брестских парламентских процедур Союз двоих окончательно освящен и волей "общесоюзных" депутатов, которых, правда, никто не избирал ни в Беларуси, ни в России.

Сам он, первый из ныне заседающих в Совете республики 63 сенаторов, с поста гомельского губернатора назначен в верхнюю палату президентом. В этом Павел Шипук, вероятно, и усматривает первопричину своих, как он полагает, независимых суждений по актуальным вопросам политической жизни республики. Недавно в одной из газет он как раз рассуждал о несправедливости бытующего в Беларуси мнения о том, что нынешний парламент карманный.

Редко говорит Павел Шипук, но метко: исключительно в русле суждений, выработанных в Администрации президента и обязательных для представителей всех остальных ветвей власти.

Спорт

## Эстафета міру набліжаецца да Беларусі

*Міжнародная легкаатлетычная эстафета па краінах і кантынентах, якая праводзіцца з 1987 года, набліжаецца да нашай рэспублікі.*

Стартаваўшы вясной у Нью-Йорку на плошчы ля будынка Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, яна прадоўжыць свой маршрут па краінах Садружнасці ў пяці напрамках. Адзін з іх — Санкт-Пецярбург — Калінінград — дзяржавы Балтыі — Беларусь — Польшча.

Па беларускай тэрыторыі бегуны пераадолеюць 1400 кіламетраў за 16 дзён. Запланавана, што да асноўнай каманды будуць далучацца спартсмены гарадоў, абласцей, члены клубаў аматараў бегу. А з'явіцца ў нас калона атлетаў напярэдадні Дня рэспублікі — 2 ліпеня — на граніцы Літвы і Ашмянскага раёна. Апошнім пунктам эстафеты стане Брэст.

**Вячаслаў ДУТАЎ,**
**БелТА.**

## Набліжаецца да фінішу справа аб крадзяжы ўрану на Ігналінскай АЭС

У 1992 годзе камандзір атрада батальёна аховы Ігналінскай АЭС Рамунас Мачэраўскас, які меў сувязі са злачынным светам Каўнаса, па іх заказу арганізаваў крадзеж адной касеты з уранам, што выкарыстоўваўся ў якасці ядзернага паліва на электрастанцыі. Пры дапамозе начальніка інжынернай змены Рэната Селікава яму ўдалося вывезці з тэрыторыі АЭС разрэзаную касету, у якой было 126 кілаграмаў таблетак дыяксіду ўрану-235. Каўнасцы Юозас Вальчынскас і Валерыенас Карбаўскас знайшлі першых пакупнікоў гэтага тавару і паспелі рэалізаваць яго на суму каля 5,5 тысячы долараў ЗША. А ўсяго ад продажу крадзенага злодзеі разлічвалі атрымаць не менш за 60 тысяч долараў.

Аднак уранавы бізнес каўнасцам не ўдаўся. Яны трапілі ў поле зроку паліцыі, якая арыштавала Ю.Вальчынскаса і В.Карбаўскаса. Перапалохаўшыся, асноўныя арганізатары крадзяжу ўцяклі ў Расію і там хаваліся ад правасуддзя. Пастаяннае нелегальнае жыццё Р.Мачэраўскасу не спадабалася, і ён, адчуўшы, што за ім ужо сочаць, вырашыў здацца. Пазваніў у пракуратуру Літвы і паведаміў, што гатоў вярнуцца дамоў і паўстаць перад судом. 10 чэрвеня 1997 года супрацоўнікі службы нацыянальнай бяспекі Літвы арыштавалі яго ў поездзе, калі ён вяртаўся з Санкт-Пецярбурга. Крымінальная справа, пачатая яшчэ ў 1992 годзе, была адноўлена.

Р.Мачэраўскас ва ўсім учыненым прызнаўся, паказаў тайнікі, дзе захоўваўся яшчэ не рэалізаваны ўран. Па ўсім відаць, справа па гэтай скандальнай гісторыі, якая не мае аналагу ў свеце, літоўскімі спецслужбамі будзе завершана паспяхова.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС,**
**БелТА.**

## Розничные цены на автозаправках г.Минска
**(на 17.06.1997)**

| Фирма | Валюта/ед изм. | Цены в бел.руб. | | | | | Опл. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | А-76 | АИ-92 | АИ-95 | АИ-98 | Диз.топ. | |
| Минскавтозаправка для бюджетн. орг-ций | BYB/л | 5.600 | 6.100 | — | — | 4.100 | б/р |
| договорные | BYB/л | 7.100 | 9.300 | 12.400 | 14.200 | 6.000 | н/р; б/р |
| Эмир | BYB/л | 7.900 | 11.000 | 15.000 | 16.700 | 7.800 | н/р; б/р |
| ЛУКойл | BYB/л | 7.000 | 9.000 | 12.400 | — | 6.000 | н/р |
| Бикаран | BYB/л | 7.000 | 9.500 | 12.300 | — | 6.500 | н/р |
| Экоцвет | BYB/л | 7.200 | 9.400 | 12.700 | — | 6.200 | н/р |
| Милком | BYB/л | 7.200 | 9.400 | 12.700 | — | 6.500 | н/р; б/р |
| ФКВП | BYB/л | 7.000 | 9.000 | 12.500 | — | 6.500 | н/р |
| Нэсте | BYB/л | 7.400 | 9.400 | 12.700 | 14.900 | 6.400 | н/р; б/р |
| Лаффает | BYB/л | 7.000 | 9.000 | — | — | 6.100 | б/р |

*Ольга Даргель, министр социальной защиты:*

## "Мы стараемся принять и выслушать всех, кто к нам обращается, и если не помочь, то хотя бы морально поддержать людей..."

### Визитная карточка Министерства социальной защиты

**Министр**
Даргель Ольга Брониславовна 222-69-90
**Помощник министра**
Чепикова Валентина Федоровна 222-62-88
**Референт министра**
Осипова Тамара Павловна 222-62-55
**Первый заместитель министра**
Беспалов Геннадий Сергеевич 222-65-14
**Заместитель министра**
Сикорский Петр Павлович 222-68-33
**Заместитель министра**
Козак Василий Иосифович 220-56-25
**Заместитель министра, руководитель Фонда социальной защиты населения**
Бачило Людмила Тимофеевна 239-48-09
**Начальник управления пенсий и пособий**
Шавловская Наталья Николаевна 220-49-87
**Начальник управления по делам военнослужащих, воинов-интернационалистов и членов их семей**
Шетько Павел Вадимович 220-17-65
**Начальник отдела семьи и гендерных проблем**
Ладыженко Валентина Егоровна 220-27-64
**Начальник планово-экономического отдела**
Ткаченко Владимир Владимирович 222-61-98
**Начальник отдела социальных учреждений, строительства и снабжения**
Гордеев Александр Николаевич 220-53-53
**Начальник отдела организационно-правовой работы и кадров**
Мамус Алина Борисовна 220-85-42
**Начальник отдела по вопросам социального обслуживания пенсионеров**
Олехнович Георгий Георгиевич 220-42-77
**Начальник отдела по делам инвалидов**
Клименко Леонид Федорович 220-34-00
**Начальник отдела бухгалтерского учета и контроля**
Олехнович Лидия Гераевна 222-64-00
**Начальник отдела информационных технологий**
Есипович Анна Ивановна 222-69-77
**Управляющий делами**
Евтушенко Тамара Иосифовна 220-57-04

**(Диалог Ольги Брониславовны Даргель с читателями о пенсиях читайте на 4-й странице.)**



## Хорошего корреспондента в Минске восстановили, а Нехорошева в Москве уволили

Как стало известно, новый председатель Всероссийской государственной телерадиокомпании Н.К.Сванидзе отменил приказ №3279-к от 23 декабря 1996 года об увольнении минского корреспондента компании Юрия Свирко под надуманным предлогом об... отсутствии аккредитации при МИДе Республики Беларусь, которую длительное время не оформлял (читайте: не подавал заявку) заместитель председателя ВГТРК А.Ю.Нехорошев, чья подпись стояла под злополучным приказом №3279-к.

Затребовав и получив объяснительную записку своего заместителя, Николай Сванидзе издал приказ за номером 1235-к. В нем говорится: "За однократное грубое нарушение трудовых обязанностей, выразившееся в незаконном увольнении собственного корреспондента ВГТРК в г.Минске Свирко Ю.В., освободить от занимаемой должности заместителя председателя ВГТРК Нехорошева Александра Юрьевича... на основании п.1 ст.254 КЗоТ Российской Федерации".

Александр Нехорошев до увольнения из Всероссийской государственной телерадиокомпании являлся, по сути, главным руководителем телепрограммы новостей Российского телерадио (РТР) "Вести".

**Витольд БОРОВИЦКИЙ.**

История в лицах

## По проторенной дорожке? По "кебичевскому" пути?..

Последние заявления президента Александра Лукашенко о том, что российское правительство повинно в срыве договоренностей, достигнутых им с президентом России Борисом Ельциным, а затем и признания, что тормозом на пути интеграции стал Анатолий Чубайс, напомнили мне, видимо, уже многими забытые события четырехлетней давности.

Тогда Александр Лукашенко — даже еще не председатель антикоррупционной комиссии, а рядовой депутат Верховного Совета 12-го созыва — начал кампанию по дискредитации правительства Вячеслава Кебича. На первом этапе она разворачивалась под лозунгом "Вячеслав Францевич — хороший, а вот окружение у него плохое". Под огонь залихватской критики попали вице-премьеры Станислав Бриль и Николай Костиков, министр Владимир Радкевич, госсекретарь Геннадий Данилов да и многие другие преданные тогдашнему премьеру люди. Возможно, посчитай в ту пору Вячеслав Францевич, что имеет дело с претенциозным политиком, на пути карьеры Лукашенко уже в то время поставили бы знак "стоп". Но хорошо известно, Кебич "молодого политика" тогда всерьез не принимал, за что и поплатился.

На втором этапе своей кампании Александр Григорьевич сделал "плохим" уже не только ближайших помощников главы правительства, но и самого премьера. Выяснилось, что Вячеслав Францевич и коррупционеров покрывает, и не знает, как правильно интегрироваться с Россией... Да и вообще, грехов у него — уйма.

Не задумал ли сейчас белорусский президент операцию "Кебич-2"? Не исключено. По крайней мере, нынешние ходы главы государства очень напоминают события 1993 года. Теперь, как и тогда, хорошим остается главное лицо — Борис Николаевич. А вот его ближайшие помощники мешают. Досталось от Александра Григорьевича и российскому правительству в целом, и Анатолию Чубайсу, и рикошетом министру экономики РФ Якову Уренсону, который вынужден был опровергать белорусского президента в программе Александра Сванидзе "Зеркало".

Словом, возвращается Лукашенко на проторенную дорожку. Только не собьется ли он с им же несколько лет назад избранного пути?

**Владимир ГЛОД.**

Юбілеі

## І ў свае 60 Аўгуст Мілаванаў адчувае сябе імператарам на купалаўскай сцэне

Народны артыст рэспублікі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Аўгуст Мілаванаў выступаў 16 чэрвеня на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў ролі бенефіцыянта. А прычынай сталі адразу дзве круглыя даты ў жыцці гэтага выдатнага акцёра: 60 гадоў з дня нараджэння і 35 гадоў творчай дзейнасці ў Купалаўскім тэатры.

На юбілейным вечары першымі прагучалі прывітанні ад імя прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі, прэм'ер-міністра Сяргея Лінга і міністра культуры Аляксандра Сасноўскага. А потым гледачы сталі сведкамі феерверка лепшых роляў артыста, якія ён сыграў за тры з паловай дзесяцігоддзі. Аўгуст Мілаванаў паўстаў перад гледачамі ў вобразах герояў са спектакляў "Я, бабуля, Іліко і Іларыён", "Што той салдат, што гэты", "...Забыць Герастрата!", "Зацюканы апостал", "Памінальная малітва", "Ромул Вялікі", "Тры сястры". А на экране былі паказаны фрагменты з мастацкіх фільмаў, у якіх здымаўся артыст.

Шмат цікавага і новага даведаліся паклоннікі Аўгуста Мілаванава аб яго дзяцінстве і юнацтве, праведзеных у родным Сталінградзе. Жыхаром Беларусі артыст стаў яшчэ ў студэнцкія гады, паступіўшы ў Мінску ў тэатральна-мастацкі інстытут, пасля заканчэння якога і пачалася яго бліскучая сцэнічная кар'ера.

Адна з апошніх буйных роляў Аўгуста Мілаванава — імператар Ромул Вялікі. У яго касцюме бенефіцыянт і застаўся да канца свайго юбілейнага вечара, прымаючы падарункі і кветкі ад калег, вучняў, крытыкаў, прадстаўнікоў прафсаюзаў, мецэнатаў і простых паклоннікаў. А пасля юбілею акцёра чакае новая работа. Яму трэба будзе ўпершыню асвойваць драматургію Аляксея Дударава ў спектаклі "Князь Вітаўт".

**Вольга ШЧАДРЫНА,**
**БелТА.**

Стыль!

## А "сувязісты" з грамадскасцю аб лёсе Віннікавай зноў не ведаюць. Ні ў КДБ, ні ў пракуратуры...

У мінулых нумарах мы спрабавалі даць інфармацыю чытачам, якіх цікавіць, як адчувае сябе ў следчым ізалятары былы "галоўны банкір" Тамара Віннікава, у якім стане следства, што новага інкрымінуюць ёй следчыя, якія, дарэчы, для вытворчасці гэтай скандальнай справы складаюць аж цэлую брыгаду. Як ведаеце, рэдакцыі пакуль не ўдалося атрымаць больш-менш змястоўную інфармацыю. Тэлефонныя званкі ў прыёмныя старшыні КДБ і Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь і ўвогуле нічога не далі. Там спасаліся на свае прэс-службы, якія, маўляў, заўсёды ў курсе ўсіх спраў гэтых устаноў.

Аднак ужо першы званок высветліў незайздросную карціну. Кіраўнік цэнтра па сувязях з грамадскасцю КДБ афіцэр Генадзь Сенюкоў на ўсе пытанні адказваў з аднолькавым пастаянствам — адмоўна: "не ведаю", "не ў курсе"... Але ж яны былі не са складаных: хто з прадстаўнікоў КДБ уваходзіць у следчую брыгаду, як з імі звязацца па тэлефоне ці адрасе. Усёй "засакрэчанасці" інфармацыі толькі і было, каб назваць прозвішча работніка.

— Па-першае, я сапраўды нічога не ведаю, — адбіваўся ад настойлівых пытанняў Генадзь Палікарпавіч. — А калі б і ведаў — усё адно б не сказаў. Навошта мне губляць пагоны? Гэта ўжо па-другое...

Не надта многа важаць афіцэрскія зоркі на плячах (гэта я ўжо скажу як палкоўнік, які сам насіў пагоны і да гэтага часу даражу дзяржаўнымі і ваеннымі сакрэтамі), калі чалавек не разумее, што складае, скажам так, дзяржаўную тайну, а што — не.

Зразумела, што аб ходзе следства пытаюць у следчага. Скажа сам следчы толькі тое, што можа сказаць. Ды і газета ніколі не стане друкаваць, тыражаваць звесткі, якія пярэчаць інтарэсам следства, перашкаджаюць справе.

Не валодалі інфармацыяй і ў Пракуратуры Рэспублікі Беларусь таксама тыя, хто адказвае за сувязі з прэсай. У прыёмнай Генеральнага пракурора далі тэлефон Аляксея Таранава. Але галоўнага "сувязіста" з грамадскасцю не аказалася на месцы. А яго калегі, як і прадстаўнікі аддзела методыкі і аналізу, што займаюць адно з імі памяшканне, параілі дачакацца "самага" Аляксея Сцяпанавіча: "Мабыць, Таранаў усё ведае".

Гэтае "мабыць", што з родурадні "не ведаю", вымушала ўзяць ды і патэлефанаваць Генеральнаму пракурору рэспублікі, старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі і спытаць, навошта стварылі яны гэтыя інфармацыйныя цэнтры, прэс-службы, якія ўсё адно нічога не ведаюць. Альбо робяць выгляд знаўцаў, людзей дасведчаных. Праўда, перад начальствам. Зразумела, сваім...

Аднак пра лёс Віннікавай рэдакцыя абавязкова раскажа, карыстаючыся, праўда, іншымі крыніцамі і не дакучаючы адвакату Гары Паганяйлу.

Але ж пытанне пастаўлена: для каго існуюць і каму патрэбны ў разнастайных установах прэс-службы і прэс-цэнтры?

**Віктар СВІРКО.**

